Published by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc., U. S. A. and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE $ 50

Address:
BIELARUS
166-34 Gothic Drive
Jamaica, N. Y. 11432

ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVII. № 115 | Лістапад 1966. | NEW YORK — TORONTO | November 1966. | Vol. XVII № 115

# 60-ЫЯ УГОДКІ „НАШАЙ НІВЫ" Й НАШАНІЎСТВА


№ 1. Наша Доля

Наш палетак.

Да чытацелеў.


№ 13. Наша Нива

Першая Беларуская Газэта з Рысунками

ВЁСКА.


НАША НІВА


№ 6. НАША ДОЛЯ

ГОЛАД


№ 18. Nasza Niwa

Pierszaja Biełaruskaja Hazeta z Rysunkami.

KASCU.

## ЗЬДЗЕКЛІВЫ КАПРЫС ГІСТОРЫІ

14 верасьня 1906 году выйшаў у Вільні першы нумар першай легальнай беларускай тыднёвай газэты „Наша Доля". З усіх шасьцёх нумароў газэты аж пяць было сканфіскаваных царскімі ўладамі. 23 лістапада таго-ж 1906 году пачала выходзіць у Вільні беларуская тыднёвая газэта „Наша Ніва", якая падмяніла зачыненую ўладамі „Нашу Долю". Доля „Нашай Нівы" была шчасьлівейшай за долю „Нашай Долі", бо „Наша Ніва" прайснавала аж да другой палавіны 1915 году, будучы спыненай адно падзеямі Першае сусьветнае вайны. Зьяўленьне гэтых газэтаў сталася магчымым у сувязі із скасаваньнем у 1905 годзе царскім урадам забароны беларускага друку.

Гэтыя дзьве даты адчыняюць новую эпоху ў гісторыі беларускага друкарства й адначасна ў гісторыі беларускага адраджэнскага руху. У моц зьдзеклівага капрызу гісторыі сталася так, што беларускі народ, які першым на Усходзе Эўропы запачаткаваў адно з найважнейшых дасягненьняў людзкое цывілізацыі — друкарства яшчэ ў 1517 годзе дзякуючы дзейнасьці свайго вялікага сына Доктара Праньціша Скарыны, і які, дзякуючы Скарынаваму вучню Пётру Мсьціслаўцу, занёс 47 год пазьней друкарства ў Маскву (у 1564 г.), пасьля тэй-жа Масквой быў сам пазбаўлены гэтага дасягненьня культуры. Самі сабой напрошваюцца тут словы беларускага падсавецкага аўтара Міхася Біча, які ў сваім артыкуле „У змаганьні за лепшую долю", надрукаваным у № 8 часапісу „Полымя" сёлета ў сувязі із 60-ымі ўгодкамі „Нашай Долі", пісаў:

„Дзіўны твой гістарычны лёс, беларускае друкаванае слова! Адным зь першых у сьвеце прабілася ты праз цемру сярэднявечча. Падхапіўшы на свае крылы выдатныя творы сусьветнай культуры — у тым ліку думкі, мары і справы вялікіх Беларусаў эпохі Адраджэньня, ты панесла іх па шырокіх прасторах славянскай зямлі, каб разагнаць тую цемру, якая сьляпіла людзям вочы, засланяла ім шлях наперад. 449 год таму назад выправіў цябе ў сьвет слаўны Доктар Праньціш Скарына. Крылы твае ўзмацнялі, палётам тваім кіравалі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Пятрусь Мсьціславец, Лаўрэнці Зізані. Дзякуючы ім ты ўвайшло ў скарбніцу сусьветнай культуры. А потым здарылася нешта недарэчнае. Крылы твае аслаблі. Ты зьяўлялася ўсё радзей і радзей і ўрэшце зусім зьнікла, ды так надоўга, што сам народ, які даў табе жыцьцё, забыўся, што ты некалі навет было. Гэтак—на мяжы жыцьця й сьмерці — прайшло каля двух стагодзьдзяў. Але народ не памёр і захаваў сваё жывое слова. Яно жыло пад саламянай страхой, на вясковай вуліцы — жыло ўсюды, дзе ступала нага Беларуса і працавала яго няўтомная рука. Не, народ не памёр! Ён толькі на доўгі-доўгі час выпаў з арбіты сусьветнай цывілізацыі".

Пра ролю роднага друкаванага слова ў нацыянальным жыцьці народу Міхась Біч у тым-жа артыкуле піша:

„Наша Доля" й „Наша Ніва", а таксама створаная ў маі 1906 году беларуская выдавецкая суполка „Загляне сонца і ў наша ваконца" паклалі пачатак гісторыі найноўшага нацыянальнага друку, адкрылі новы этап у разьвіцьці беларускага нацыянальнага руху.

Масавы нацыянальны рух нельга ўявіць без разьвітага нацыянальнага друку. Распрацоўка ідэялягічных пытаньняў руху, яго праграмы, стратэгіі й тактыкі, прапаганда нацыянальнай ідэі, арганізацыя руху, разьвіцьцё асьветы, культуры й літаратуры, а таксама тэатру, выяўленчага мастацтва, музыкі, школы й навукі, распрацоўка норм літаратурнай мовы і да т. п. — усё гэта немагчыма бяз друку, бо ўсё гэта— яго непасрэдныя функцыі й задачы".

## „НАША НІВА" Й НАШАНІЎСТВА

Час выхаду „Нашай Нівы" стаўся пачаткам слаўнага пэрыяду ў беларускай літаратуры й нацыянальна-палітычнага адраджэньня, які й атрымаў назоў нашаніўскага пэрыяду. Беларуская мастацкая літаратура нашаніўскае пары, ачольваная такімі паэтамі й пісьменьнікамі, як Янка Купала, Якуб Колас, Ядвігін Ш., Карусь Каганец, Алёйза Пашкевічанка-Цётка, Алесь Гарун, Максім Багдановіч, Зьмітрок Бядуля, Цішка Гартны, Вацлаў Ластоўскі-Власт і Максім Гарэцкі, выконвала ня толькі свае беспасярэднія эстэтычныя фукцыі, але й усе функцыі нацыянальнага адраджэньня, у тым ліку й палітычныя. „Наша Ніва", як і ейная папярэдніца „Наша Доля", была неафіцыйным, але фактычным органам палітычнае партыі, заснаванае ў 1902 годзе пад назовам Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады, а ў 1903 годзе перайменаванае ў Беларускую Сацыялістычную Грамаду. Галоўныя кіраўнікі Грамады — браты Іван і Антон Луцкевічы, Александар Бурбіс, Вацлаў Ластоўскі, Аляксандар Уласаў, Вацлаў Іваноўскі й іншыя, былі й галоўнымі публіцыстымі „Нашай Нівы".

## ІДЭЯ ЧАЛАВЕЧАЙ — ЛЮДЗКАЙ — НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГОДНАСЬЦІ

Галоўнай ідэяй нашаніўскага адраджэньня сталася ідэя чалавечай-людзкай - нацыянальнай годнасьці паняволенага беларускага народу, якому раней гэтая годнасьць адмаўлялася. Гэтая ідэя была найзырчэй сфармуляваная ў творчасьці найвыдатнейшага нашаніўскага паэты, агульна вызнанага духовага правадыра беларускага народу й прарока ягонага адраджэньня — Янкі Купалы. Яшчэ больш чымся за год да выхаду „Нашае Долі" ў першым сваім друкаваным вершы „Мужык", што зьявіўся 15 травеня 1905 году ў менскай расейскай газэце „Северо-Западный Край", Купала пісаў:

*Але хоць колькі жыць тут буду,*
*Як будзе век тут мой вялік,*
*Ніколі, браткі, не забуду,*
*Што чалавек я, хоць мужык!*

Гэтае ўсьведамленьне век пагарджаным і пакрыўджаным беларускім мужыком ягонае чалавечае годнасьці, выказанае ў Купалавым вершы, сталася вядучай ідэяй першае фазы нашаніўскага адраджэньня. Гэтая ідэя паўнавартаснага чалавека эвалюцыянуе й пашыраецца на ўвесь беларускі народ. У Купалавым вершы „А хто там ідзе", напісаным не пазьней 1907 году, ідэя гэтая ўжо выражаецца словамі „людзьмі звацца":

*А чаго-ж, чаго захацелась ім,*
*Пагарджаным век, ім сьляпым, глухім?*
*— Людзьмі звацца!*

Ідэя прывярненьня беларускаму народу людзкае годнасьці эвалюцыянуе далей і становіцца ідэяй нацыянальнае годнасьці й роўнасьці паміж іншымі шчасьлівейшымі народамі. У вершы 1911 году, прысьвечаным 5-ым угодкам „Нашай Нівы", Купала выказаў гэткае дамаганьне для беларускага народу й веру ў зьдзейсьненьне гэтага дамаганьня:

*Зацьвіце-ж наш край, як сонца*
*Пасьля непагоды,*
*Ў роўнай волі, ў роўным стане*
*Між усіх народаў.*

Яшчэ зырчэй сфармуляваў Купала гэтую адраджэнскую ідэю ў сваім прароцкім заклiку, якім канчаецца ягоны верш 1911 ці 1912 году „Маладая Беларусь":

*Падымайся зь нізін, сакаліна сям'я,*
*Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;*
*Занімай, Беларусь, маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад між народамі!*

## РОДНАЯ МОВА — АСНОВА НАЦЫІ

Яшчэ Праньцішак Багушэвіч, кідаючы славуты лёзунг — „Беларусы, не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!" — добра разумеў, што захаваньне роднае мовы адназначнае зь існаваньнем самога народу, як нацыі. Гэтую сьвятую праўду глыбака ўсьведамілі й нашаніўцы, узьнёсшы родную мову на ўзвышшы нацыянальнага культу. Ня хто іншы, як той-жа Купала ў вершы 1910 году „Роднае слова" сьцьвярджаў і прарочыў:

*Ўсё спаганяць людзі, покі ноч шалее,*
*Вырвуць веру ў шчасьце, веру і надзею,*
*Ды таго ня вырвуць, што напела маці*
*Ночкай над калыскай роднаму дзіцяці.*

.............................................

*Ты зжылося з намі, бацькаўскае слоўца,*
*Як-бы корань з дрэвам, як-бы зь небам сонца;*
*Дзеліш з намі вечна ўсё, што з намі ходзе*
*У благой і добрай мачысе-прыгодзе.*

.............................................

*Як жыло ты з намі — будзеш вечна жыці,*
*Грамадой мільёнаў зь сьветам гаманіці...*
*З попелу мінуўшых дзён сьляпых, крывавых*
*Весела узойдзе рунь сьвятлянай славы.*

*І радзімым словам рукой мазалістай*
*Беларус упіша на старонцы чыстай*
*Кнігі ўсіх народаў важна, ў няпрымусе*
*Сумную аповесьць роднай Беларусі.*

Іншы нашаніўскі паэта Алесь Гарун у вершы „Ты мой брат, каго зваць Беларусам" заклікаў:

*Дык шануй, Беларус, сваю мову —*
*Гэта скарб нам на вечныя годы;*
*За пашану радзімаму слову*
*Ушанують нас брацьце-народы!*

Алёйза Пашкевічанка-Цётка ў артыкуле „Шануйце роднае слова", надрукаваным у № 3 за 1914 год выдаванага ёю часапісу для моладзі „Лучынка", гэтак усьведамляла сваіх маладых чытачоў аб іхным абавязку шанаваць родную мову:

„Але поруч зь любоўю да сваіх братоў патрэбна яшчэ нешта, што злучае людзей у суцэльны народ: гэта — родная мова.

Яна, быццам цэмэнт, зьвязвае людзей. Яна дае ім найлепшы спосаб разумець адзін аднаго, аднэй думкай жыць, аднэй долі шукаць. Хто адрокся мовы бацькоў сваіх, хто ўзьдзеў чужую апратку — той адыйшоў ад народу далёка-далёка".

Захаваньне роднае мовы, ейная абарона перад русыфікацыяй і палянізацыяй, ейнае разьвіцьцё й рупліваcьць пра ейную чыстыню было адным з найважнейшых элемэнтаў усяго нашаніўскага адраджэнства.

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

BIELARUS
Byelorussian Newspaper of North America
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
Address in U.S.A.: 166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Address in Canada: Byelorussian Canadian Alliance
524 St. Clarence Avenue Toronto 4, Ont.
Subscription $ 6.00 yearly.

БЕЛАРУС — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдаюць: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
й Згуртуваньне Беларусаў Канады.
Выпіска зь перасылкою — 6 дал. на год.

## 60-ЫЯ УГОДКІ „НАШАЙ НІВЫ"

(Перанос з 1-шай бачыны)

### КУЛЬТ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ МІНУЎШЧЫНЫ

У сваім вершы 1912 году „Цару неба й зямлі" Купала выказваў гэткую крыўду, спрычыненую беларускаму народу самым Богам:

*Ты ў цьвет сваіх нялічаных народаў*
*Мінуўшчыну і будучыну ўбраў.*
*А ў нас — караючы чужой свабодай —*
*Мінулае — і тое адабраў.*

Узапраўды, нявымоўна балючай трагэдыяй беларускага народу было тое, што ён, у моц даўгое няволі, забыўся ня толькі свайго нацыянальнага імя, але й сваёй гістарычнай мінуўшчыны. Таму нашаніўцы першыя, уваскрашаючы веліч, славу й магутнасьць беларускага народу ў часы ўдзельных княстваў і ў эпоху задзіночанага беларускага гаспадарства — Вялікага Княства Літоўскага, імкнуліся абудзіць у народзе пачуцьцё нацыянальнае гордасьці й веру ў будучыню.

Такі пагляд на мінуўшчыну й ейную ролю для сучаснасьці й будучыні вельмі часта выступае ў творах Купалы. Дастаткова паклікацца на ягоны верш „Над Нёманам" і прывесьці зь яго радкі, дзе ў паэтычнай візіі Купалы чуваць наступная скарга Нёмана:

*Край, дзе жыцьцё я сваё пачынаю,*
*Шмат вясялей прыглядаўся на сьвет,*
*Песьні і казкі інакшыя баіў,*
*Шчасьце цьвіло ў ім, як макавы цьвет.*
*Буйным жыцьцём усё чыста кіпела,*
*Слава далёка за мора ішла.*
*Ворага кожны за плечы браў сьмела,*
*Цемра чужынцаў ня страшнай была.*
*Панам быў дома і слаўным за домам*
*Мой патаптаны сягоньня народ;*
*Змог ён ня толькі знаць штукі з заломам, —*
*Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.*
*З вольнай дружынаю князь на пасадзе*
*Вольнаму люду законы пісаў;*
*Слухалі князя, а князь што ня ўладзіў —*
*Слухаў, што веча яму звон казаў.*

Падобна й Алесь Гарун у цытаваным ужо вершы „Ты мой брат, каго зваць Беларусам", пісаў:

*А даўней Беларус, нападданы,*
*Гаспадарыў, быў сам над сабою*
*І далёка у сьвеце быў знаны*
*За Літоўскай і Ляскай зямлёю.*
*Але час прамінуў, і нядоля*
*На народ, як-бы камень зваліла:*
*Беларуская слава і воля*
*Адыйшла, адцьвіла, адсьвяціла.*

Культ нацыянальнае мінуўшчыны, апрача Купалы й Гаруна, выявіўся асабліва моцна ў вершах Максіма Багдановіча і ў празаічных творах Вацлава Ластоўскага-Власта.

### НАРОДНЫЯ ТРАДЫЦЫІ

Адраджаючы беларускую нацыянальную культуру й ствараючы новыя культурныя вартасьці, нашаніўцы базаваліся галоўным чынам на народных культурных традыцыях. Элемэнты ўсіх жанраў народнае творчасьці й асаблівасьці народнае паэтыкі шырака выкарыстоўвалі ў сваіх творах асабліва Янка Купала, Максім Багдановіч, Зьмітрок Бядуля, Вацлаў Ластоўскі-Власт ды Максім Гарэцкі, будучы сьведамымі, што на народнай сялянскай аснове павінна будавацца беларуская нацыянальная культура. А наступнай ейнай фазай уважалася сымбіёза народнае беларускае традыцыі із дасягненьнямі сусьветнае культуры. У галіне паэзіі ў гэткім кірунку разьвіваў творчасьць галоўна Максім Багдановіч. Сяньняшні характар і тэндэнцыі разьвіцьця беларускай культуры поўнасьцяй пацьвердзілі правільнасьць выбранага нашаніўцамі шляху.

### ПРАБЛЕМА САЦЫЯЛЬНАГА ВЫЗВАЛЕНЬНЯ

Апрача нацыянальнага адраджэньня, нашаніўства ў цэнтры ўвагі ставіла таксама й сацыяльнае вызваленьне народу ад сацыяльнае крыўды, прыгнечаньня й эксплюатацыі. Але ў моц таго, што эксплюататарскімі элемэнтамі ў Беларусі былі або нацыянальна чужыя — насланыя ў Беларусь Расейцы й Палякі, або зрусыфікаваныя й спаланізаваныя Беларусы, што да беларускай нацыі псыхалягічна й культурна ўжо не належалі, сацыяльная праблема разглядалася, як частка праблемы нацыянальнай або зь ёй утаесамлівалася.

Больш таго. Даючы перавагу ў сваёй дзейнасьці справе нацыянальнага адраджэньня, нашаніўцы сьвядома прамоўчвалі сацыяльна-клясавыя супярэчнасьці, што ўсё-ж існавалі й у масе беларускага сялянства. Нашаніўцы імкнуліся да нацыянальнага адраджэньня, а ў розных межах і ў роўнай ступені былі й за сацыяльнае вызваленьне беларускага народу. Але ў імя нацыянальнае ідэі яны былі супраць распальваньня сацыяльнае ненавісьці ўнутры самога беларускага народу, бо гэта адно аслабіла-б ягоны нацыянальны патэнцыял і зьменшыла-б ягоныя нацыянальныя сілы.

### ІДЭЙНАСЬЦЬ РУХУ

Нашаніўскі рух вызначаўся нязвычайна глыбокай ідэйнасьцяй, а нашаніўская літаратура вытварыла ў сабе элемэнт народнага правадырства й прароцтва лепшае народнае будучыні. Недарма, галоўны ідэялёг нашаніўства Купала атрымаў агульнанароднае прызнаньне духовага правадыра беларускага народу й прарока ягонага адраджэньня. Дый усе вядучыя нашаніўцы, як паэты й пісьменьнікі, гэтак і палітычныя дзеячы, былі людзьмі глыбокае ідэі й бязьмежнай ахвярнасьці для яе. Некаторыя зь іх, як Фабіян Шантыр, Цішка Гартны, Максім Гарэцкі, Вацлаў Ластоўскі, Вацлаў Іваноўскі, Антон Луцкевіч, Уладыслаў Галубок, Аляксандар Уласаў ды шмат іншых, сталіся народнымі мучанікамі, будучы пазьней фізычна бальшавікамі зьнішчанымі. Іншыя-ж, як Іван Луцкевіч, Алёйза Пашкевіч-Цётка, Алесь Гарун, Максім Багдановіч, надрываючы свае кволыя сілы ў нацыянальнай дзейнасьці, перадчасна зышлі ў магілу. Яшчэ іншыя, як Янка Купала, будучы ворагам маральна прыбітымі й духова зламанымі, самі налажылі рукі на сябе.

Ідэйная ахвярная дзейнасьць нашаніўцаў укаранавалася нябывалымі дасягненьнямі й пакінула на сабе навек незацёрты сьлед. Паднятае імі адраджэньне пранікла ў масы, ускалыхнула народнае сумленьне, нарадзіла веру ў будучыню. І ўсе наступныя фазы нацыянальнага руху выводзяцца беспасярэдня з нашаніўства, жывяцца ідэйнымі сокамі, мастацкімі й культурнымі скарбамі, што нашаніўствам былі створаныя. Дый векапомны Акт 25 Сакавіка, што завяршыў эпоху нацыянальна-адраджэнскую ды распачаў эпоху нацыянальна - вызвольную, зрадзіўся зь ідэяў нашаніўства.

Ст. Станкевіч

## 60-ЫЯ УГОДКІ ГРАМАДЗКАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ АЛЯКСАНДРА СТАГАНОВІЧА



Зьлева направа: ген. Ф. Кушаль, сп. А. Стагановіч, сп-ня Стагановіч, мітр. прат. а. Сьцяпан Войтэнка

Управа БАЗА ў Нью Джэрзі 15 кастрычніка сёлета годна адзначыла 60-ыя ўгодкі грамадзкай дзейнасьці свайго старэйшага й заслужанага сябры сп. Аляксандра Стагановіча. З гэтае нагоды вечарам таго-ж дня ў залі Боўл-Дром у Нью Бранзьвіку была наладжаная ўрачыстая бяседа, у якой прынялі ўдзел шматлікія суродзічы зь Нью Бранзьвіку, Саўт Рывэру, Нью Ёрку й аколіцаў, усіх разам каля ста асобаў.

Калі зьявіўся сам Юбіляр із жонкаю, усе ў залі ўсталі дзеля прывітаньня, тады занялі месцы за сталамі. Урачыстую бяседу адчыніў старшыня Аддзелу БАЗА сп. С. Гутырчык, прывітаўшы гасьцей і самога Юбіляра. Пасьля прапяяньня „Сто год!", сп. В. Стома прачытаў прыгожа апрацаваны даклад пра жыцьцё й дзейнасьць Юбіляра.

„Сяньня на маю долю выпаў вялікі гонар вітаць Таго, з чыей прычыны мы тутака сабраліся, з 60-мі ўгодкамі палітычнай і грамадзкай працы б. вязьня польскіх турмаў, б. сябру Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, б. пасла ў Польскі Сойм, Першага Заступніка Прэзыдэнта Рады БНР — сп. Аляксандра Стагановіча", — распачаў свой даклад сп. В. Стома.

Пасьля дакладу шмат хто з прысутных старшыняў і прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў, а таксама й ад сябе асабіста, у кароткіх, але гарачых словах віталі Юбіляра.

Першым прамаўляў ген. Ф. Кушаль ад імя Ўраду БНР. Тады прамаўлялі: старшыня Галоўнай Управы БАЗА інж. М. Гарошка, рэдактар газэты „Беларус" д-р Ст. Станкевіч, старшыня Царкоўнай Рады мясцовай парахвіі БАПЦарквы сп. П. Кажура, сп. Я. Запруднік, ён-жа прачытаў пісьмовае прывітаньне праф. Ант. Адамовіча, віцэ-старшыня Акруговай Управы БАЗА Нью Ёрку сп. А. Шукелайць, сп. Г. Паланевіч. У кароткай, але шчырай прамове ўсім ім падзякаваў сп. А. Стагановіч. Пасьля гэтага былі прачытаныя пісьмовыя прывітаньні ад няпрысутных Уладыкі Васіля, а. Ф. Чарняўскага, д-ра В. Васілеўскага, сп-ні Яніны Каханоўскай, д-ра Я. Сажыча, сп. М. Тулейкі й сп. В. Кендыша.

У часе бяседы мясцовы Аддзел БАЗА паднёс Юбіляру памяткавы падарак у якасьці залатога гадзіньніка „Омэга". У вадзначэньне юбілею сп. А. Стагановіча прысутныя злажылі 162 даляры на выдавецкі фонд газэты. „Беларус".

Бяседа цягнулася да позняга вечару ў прыемнай сяброўскай атмасфэры.

### ПАДЗЯКА

Шчыра дзякую Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі на чале зь ягоным старшынём сп. Сяргеем Гутырчыкам за наладжаньне ўрачыстага юбілею 60-годзьдзя маёй грамадзкай працы. Асабліва дзякую за каштоўны юбілейны падарак у якасьці залатога гадзіньніка „Омэга", які мне быў паднесены падчас урачыстай бяседы.

Гэтаксама шчыра дзякую ўсім прыяцелям суродзічам, што ў гэткай вялікай колькасьці прынялі ўдзел у юбілейнай бяседзе ў сыботу 15 кастрычніка сёлета. Асаблівая мая падзяка тым, што на гэтай бяседзе выступалі з прывітальнымі прамовамі, як і тым, што, ня могучы быць прысутнымі, прыслалі пісьмовыя прывітаньні.

Аляксандар Стагановіч

## „ПРЫКАЗКІ ЛАГОЙШЧЫНЫ"

„Прыказкі Лагойшчыны. Запісаў Адам Варлыга" — гэтак завецца кніжка, выдадзеная нядаўна, ў 1966 годзе, Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў ЗША. Фінансавала выданьне Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага ў Нью-Ёрку.

Кніжка мае 112 балонак друку. Прадмова да яе, што зьяўляецца адначасова й кароткай гісторыяй беларускае прыказкі, напісаная Рыгорам Максімовічам.

„Гэты зборнік, — так канчае ён сваю прадмову, — мае ня толькі строга навуковую — для этнографаў і моваведаў — але й шырэйшую практычную вагу й цікавасьць, як карысны падручны даведнік для беларускіх настаўнікаў, пісьменьнікаў, публіцыстых, дый усіх іншых працаўнікоў слова й пяра... і навуковыя, і практычныя вартасьці зборніка не часовыя, а трывалкія..."

У кнізе „Прыказкі Лагойшчыны" — сабрана іх зьвыш 1.700. Паводля ліку прыказак, зборнік гэты, — як пішацца ў прадмове, — „пяты з чаргі пасьля зборніку Фэдароўскага, Насовіча, Дабравольскага, Ляцкага". Апрача прыказак, у зборніку зьмешчана 32 прывітаньні, 79 праклёнаў ці „клёнак", як іх называе аўтар, і 108 загадак. Прыказкі пададзеныя ў альфабэтычным парадку. Да кажнае прыказкі аўтар дае свае паясьненьні, што раскрываюць значаньне, у якім тая ці іншая прыказка ўжываецца. У зборніку зьмешчаныя й некаторыя беларускія прыказкі ўжо савецкае пары. Бальшыня зь іх засуджае савецкую ўладу на Беларусі.

Усе прыказкі, прымаўкі й загадкі, як сьветчыць ужо й сам загаловак зборніка, паходзяць з Лагойшчыны. Гэткім парадкам—гэта прыказкі цэнтральнае Беларусі й як ня трэба лепш дапаўняюць сабою зборнік Фэдароўскага з прыказкамі заходніх земляў Беларусі да Насовічавы — з усходніх. Усе запісы зробленыя з памяці, з пачутага аўтарам у роднай Лагойшчыне ў 1897-1930 гадох.

Аўтар кнігі, Адам Варлыга, гэтак піша пра ход зьбіраньня матар'ялаў да свае кнігі:

„Гэты зборнік народных прыказак паўстаў як-бы выпадкова... Склалася гэтак, што ў першае паваеннае лета, у 1945 годзе,... знайшлося шмат вольнага часу на ўспаміны... пра маленства, пра блізкіх і родных. Тады, вось стала ўсплываць у памяці й іхная гутарка з прыказкамі й прымаўкамі. Тады зьявілася й думка запісваць прыказкі для самога сябе. За тое лета прыказак сабралася колькі сотак... Год — ад-году лік прыказак рос і рос. І гэткім чынам за год дзесяць назьбіралася іх болей за паўтары тысячы. Пазьней... зьявіўся сумлеў: ці будзе зразумелым сэнс гэтых прыказак іншым... І вось тады прыйшло на думку... запісаць, пры якіх выпадках іх ужываюць, скуль яны выводзяцца... Гэткім чынам і склаўся гэты сьціплы зборнік".

Н. А.

## У змаганьні за беларускую кнігу

Пра тое, што ў кнігарнях і бібліятэках Беларусі вельмі цяжка знайсьці беларускую кніжку, пішацца ў перыядычным друку сыстэматычна ўжо каля дзесяцёх год. Не зважаючы на гэта, паправы ня толькі ня відаць, але той-жа друк падае штораз новыя й проста няверагодныя факты пра гэтую адну з найбольшых балячак у культурным жыцьці Беларусі.

Вельмі паказальны у гэтай справе ліст настаўніка з Ашмяншчыны І Говара, надрукаваны ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 29 ліпеня сёлета. У лісьце гэтым Говар піша: „Гаворку хочацца пачаць з таго, што я прыехаў у Ашмяну, каб набыць для школы некаторыя кнігі беларускай прозы й паэзіі. Зайшоў у раённую кнігарню, пераглядаю літаратуру. Сустракаю „Три поэмы" Я. Купалы, „Трясину" Я. Коласа „Сквозь годы" П. Галавача, „Сердце на ладони" І. Шамякіна, „Дороги скрестились в Минске" І. Новікава, „Встречи на росстанях" А. Кулакоўскага, „Сосна при дороге". І. Навуменкі й інш. Усе гэтыя кнігі выданыя ў нашым выдавецтве „Беларусь". Стаю й думаю, а дзе-ж дзеліся „Дрыгва", „Праз гады", „Сэрца на далоні", „Дарогі скрыжаваліся ў Менску", „Сустрэчы на росстанях" і гэтак далей?"

Адказ на гэтае пытаньне знаходзіць настаўнік з Ашмяншчыны, прыраўнаўшы тыражы ўспомненых кніжак у арыгінале й у расейскіх перакладах. Ён сьцьвярджае, што, прыкладам, „Сэрца на далоні" на беларускай мове зьявілася тыражом 12 тысячаў экзэмпляраў, а ў расейскім перакладзе — 200 тысячаў, „Людзі на балоце" І. Мележа — адпаведна 20 тысячаў і 100 тысячаў, „Сасна пры дарозе" — 6.330 і 100 тысячаў, „Дарогі скрыжаваліся ў Менску" — 7.500 і 100 тысячаў, і гэтак далей.

Калі браць на ўвагу, што галоўная маса перакладаў знаёміць усесаюзнага чытача з творамі беларускай літаратуры, дык такія высокія тыражы іхных перакладаў на расейскую мову заставалася-б адно вітаць і цешыцца, што беларуская літаратура карыстаецца вялікім посьпехам у гэтага чытача. Нажаль, факты гавораць пра зусім што іншае. Той-жа настаўнік з Ашмяншчыны далей піша: „увесь (ці амаль увесь) тыраж перакладной літаратуры, як мне здаецца, застаецца ў нашай рэспубліцы. Я бяру на сябе сьмеласьць сьцьвярджаць гэта, бо дзе ні быў за межамі Беларусі, ня сустракаў кніг, выдадзеных нашым выдавецтвам Беларусь".

Вось дзе, як кажуць, сабака закапаны. Даруйце, але пры ўсіх скідках і на заганную дзейнасьць кнігагандлю, і на сьведамае байкатаваньне некаторымі ягонымі працаўнікамі беларускіх кніжак, і на ўсе іншыя перашкоды, дзеля якіх беларуская кніжка ня можа трапіць да чытача, застаецца адна галоўная прычына: камусьці ў цэнтры залежыць на тым, каб беларускую кнігу беларускі чытач чытаў у расейскай мове. Нічым іншым падобных фактаў, якія прывёў настаўнік з Ашмяншчыны, — а падобных фактаў кажнага году прыводзяцца дзясяткі, — выясьніць немагчыма.

Аднак Камітэт для друку пры Савеце Міністраў БССР, ад якога ўся гэтая кніжная справа залежыць, выясьніў гэта пасвойму. У вадказе на ліст настаўніка з Ашмяншчыны І. Говара, надрукаваным у „Літаратуры і Мастацтве" за 16 жнівеня, гэты Камітэт піша:

**„Паведамляем, што гандаль кнігамі на сяле ўжыцьцяўляе Белкаапсаюз, усе заказы якога на беларускія кнігі выдавецтвы поўнасьцяй задавальняюць".**

Значыцца, усё ў парадку, і без патрэбы, маўляў, крычыць гэны настаўнік з Ашмяншчыны, а за ім і рэдакцыя „Літаратуры і Мастацтва"!

Але Камітэт для друку пры Савеце Міністраў БССР у сваім лісьце піша далей:

„Большасьць тыражу кніг беларускіх пісьменьнікаў, выдадзеных на рускай мове, рэалізуецца за межамі рэспублікі. Так, Упраўленьне кніжнага гандлю атрымала 93 тыс. экзэмпляраў аповесьці Я. Коласа „Трясина", 71 тыс. экзэмпляраў зь іх адправіла за межы рэспублікі, раман І. Мележа „Люди на болоте" атрыманы ў колькасьці 80 тыс. экзэмпляраў, за межы рэспублікі ад-

# ЗАСНАВАЛЬНІКІ Й РЭДАКТАРЫ „НАШАЙ НІВЫ"

Адзначаючы 60-ыя ўгодкі „Нашай Нівы", мы ў першую чаргу мусім ушанаваць памяць заснавальнікаў і рэдактараў яе, усьведаміць сабе іх вялікія чыны, іх вялікія заслугі.

„Наша Ніва", як і яе папярэдніца „Наша Доля", была органам Беларускае Сацыялістычнае Грамады. У 1906 годзе ў цэнтральны камітэт гэтай першай беларускай палітычнай партыі ўваходзілі браты Іван і Антон Луцкевічы, В. Іваноўскі й А. Бурбіс. Яны былі закладчыкамі „Нашай Долі" й „Нашай Нівы".

Рэдакцыя „Нашай Нівы" складалася зь Івана й Антона Луцкевічаў і Аляксандра Ўласава. Гэтыя тры асобы ня выпадкова ўвайшлі ў рэдакцыю „Нашай Нівы". Браты Луцкевічы былі маторам усяго тагачаснага беларускага руху, на іх адказнасьці была газэта й яны фактычна рэдагавалі яе. А Ўласаў быў фармальным рэдактарам. Роля гэта прыпала яму таму, што ён быў памешчыкам і, як такі, у вачох царскай улады ўважаўся за больш „благанадзёжнага".

Браты Луцкевічы — гэта сапраўдныя волаты беларускага адраджэньня. Яны былі творцамі й інсьпіратарамі адраджэнскай ідэялёгіі, арганізатарамі беларускага грамадзкага, палітычнага й культурнага жыцьця, вучыцелямі нарастаючых пакаленьняў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, грамадзкіх і палітычных дзеячоў. Яны стаялі на старожы ўсяго беларускага руху, здабывалі для яго матар'яльную базу, вышуківалі выхады ў найцяжэйшых сытуацыях у найцяжэйшых часох.

Шчасьліва склалася, што браты Луцкевічы запачаткавалі Нашаніўскую пару будучы маладымі, у студэнцкіх гадох. Дзякуючы гэтаму, яны надалі сілу маладосьці ўсяму беларускаму руху, уцягнулі ў гэты рух маладое пакаленьне, якое панесла нашаніўства праз доўгія гады, праз Першую Сусьветную вайну, праз расейскую рэвалюцыю — аж да Акту 25-га Сакавіка ўключна.

***

Іван Луцкевіч быў выняткоўай фігурай ня толькі на беларускім груньце, але й у цэлым навакольлі нашых суседзяў. Хоць пражыў толькі 38 год (1881-1919), пакінуў па сабе вялікую спадчыну ўва ўсіх галінах беларускага жыцьця. Атрымаўшы па бацьку пэўную суму грошай, маладыя Луцкевічы мелі магчымасьць здабыць вышэйшую асьвету. Іван Луцкевіч едзе ў Пецярбург, дзе студыюе архэалёгію й права, а Антон Луцкевіч (на пару гадоў малодшы) ськіроўваецца на прыродазнаўства ў Дарпацкі ўнівэрсытэт (у цяперашняй Эстоніі). Івану Луцкевічу ўдаецца закончыць архэалёгію ў Пецярбурзе й пашырыць сваю веду ў гэтай галіне ў унівэрсытэце ў Вене, сталіцы Аўстрыі. Пасьля гэтага ён варочаецца ў Пецярбург, каб закончыць і права,



**Іван і Антон Луцкевічы й Аляксандар Уласаў у часы „Нашай Нівы"**

але тым часам так уцягваецца ў беларускі рух, што ўжо не да навукі яму: няма ўжо на гэта ані часу, ані грошы. Рэшткі бацькавай спадчыны йдуць на беларускую справу, якая вымагае ўсё большых і большых сяродкаў і для яе трэба было шукаць ужо новых крыніцаў. Уцягнуўшыся ў беларускую справу, ня мае часу й грошы на далейшую навуку й Антон Луцкевіч. Ён зрываецца з унівэрсытэту й вяртаецца ў Менск, дзе, у сувязі з рэвалюцыяй 1905-га году, Беларуская Сацыялістычная Грамада вымагае большай актыўнасьці ад сваіх сяброў. У 1906 годзе Луцкевічы пераяжджаюць у Вільню й пачынаюць выдаваць „Нашу Долю" й „Нашу Ніву".

Фінансавая база газэты й усяго руху кладзецца на плечы Івана Луцкевіча. Кідкі, энэргічны й вынаходлівы — ён дае сабе рады. Ён бярэ на сябе прадстаўніцтва розных фірмаў і праводзіць розныя гандлёвыя трансакцыі. Як найлепшы ў цэлым краі знаўца старасьвеччыны й мастацтва, ён знаходзіць у заняпалых крамах і антыкварнях ды вясковых парахвіях закінутыя й занядбаныя старасьветцкія рэчы й абразы, купляе іх за мінімальную цану, аднаўляе, а тады прадае за належную вартасьць і вельмі часта атрымлівае паважныя сумы. Тады ёсьць грошы на ўсё: і на газэту, і на грамадзкую работу, і на асабістыя выдаткі. Калі грошы канчаюцца — усё пераходзіць на крэдытовую гаспадарку — аж да новай удалай транзакцыі. Вынаходлівасьць Івана Луцкевіча выдаецца бязьмежнай. Людзі дзівяцца толькі ягонай энэргіі. Ён праводзіць свае транзакцыі і ў Вільні, і ў Пецярбурзе, і ў Львове, і навет у Вене. Калі знаходзіць рэчы зь беларускай старасьвеччыны — пакідае іх для беларускага музэю. Так зь бегам гадоў ён зьбірае вялікую колькасьць беларускіх экспанатаў, зь якіх паўстае найбольшы ў цэлым краі музэй — Беларускі Музэй Івана Луцкевіча ў Вільні, у Базыльянскіх мурох.

Фактычнае рэдактарства „Нашай Нівы" прыпадае Антону Луцкевічу, які лёгка спраўляецца із сваім заданьнем. Маючы прыродныя здольнасьці й асьвету, ён выробляецца на выдатнага публіцыстага й літаратуразнаўца. Піша пад псэўданімам Антон Навіна. Аднак ідэялягічны тон і характар надае газэце Іван Луцкевіч, хоць сам і ня піша. Навет пазьней, калі месца рэдактара „Нашай Нівы" займаюць іншыя асобы — фактычнае кіраўніцтва надалей належыць да Луцкевічаў. Празь некалькі год „Наша Ніва" здабывае шмат падпішчыкаў, лік якіх стала ўзрастае. Здавалася ўжо недалёка той час, калі газэта стане на свае собскія ногі. Але вайна перарывае яе існаваньне ў 1915-ым годзе.

З гэтым, аднак, не канчаецца вядучая роля Луцкевічаў. Яны знаходзяць способы, каб пад нямецкай акупацыяй выдаваць беларускую газэту „Гоман", ды выкарыстоўваюць новыя магчымасьці для беларускага руху. Гуртуюць новых людзей, запачаткоўваюць школьную акцыю, твораць новыя беларускія арганізацыі, стараюцца вывесьці беларускую справу на міжнародную арэну. У завірусе вайны й рэвалюцыі, ды акупацыяў — нямецкай, бальшавіцкай і польскай — яны ўвесь час стаяць на чале беларускага руху ў Заходняй Беларусі, ды сягаюць сваімі ўплывамі й на аддзелены ад іх фронтам Менск. Іх уплывы адчуваюцца й на Акце 25-га Сакавіка. Зь іхняй ініцыятывы паўсталі ў Зах. Беларусі такія творчыя арганізацыі, як Беларускае Выдавецкае Таварыства, Т-ва Ахвяр вайны, Беларускае Навуковае Т-ва, Т-ва Беларускае Школы. Яны кіруюць арганізацыяй беларускіх школ і вучыцельскіх курсаў. Апошнім вялікім чынам Івана Луцкевіча была арганізацыя 1-й Віленскай Беларускай Гімназіі на пачатку 1919-га году.

У бязьмежным высілку для справы гэты Вялікі Беларус надарваў свае сілы й захварэў на сухоты. Цяжкая хвароба змусіла яго перарваць навучаньне беларускай мовы ў гімназіі й спыніць усю грамадзкую дзейнасьць. Ён едзе ў санаторыю ў Закапанае, дзе ў жніўні 1919-га году памірае. У васобе Івана Луцкевіча беларускі вызвольны рух траціць найвялікшага свайго правадыра — і ў той цяжкі час, калі трэба змагацца за беларушчыну і пад польскай акупацыяй, і пад бальшавікамі.

***

Антон Луцкевіч стараецца ўтрымаць і разьвіць усё тое, што стварылі супольна зь Іванам. Ідзе тым-жа шляхам. Ачолівае беларускі вызвольны рух у Заходняй Беларусі. Выкарыстоўвае для беларускай справы розныя палітычныя каньюнктуры, але заўсёды мае наўвеце толькі дабро гэтай справы. Бачым яго на чале ўраду БНР, бачым яго ў Парыжы на мірнай канфэрэнцыі, дзе ён стараецца здабыць прызнаньне для БНР. Калі-ж усе намаганьні здабыцьця беларускай дзяржаўнасьці не ўдаюцца — ён пераходзіць да жмуднай творчай працы ў Вільні, пад польскай акупацыяй. Ён ачолівае беларускія выбарчыя акцыі пры выбарах у польскі сойм. Выкладае беларускую літаратуру ў Віленскай Беларускай гімназіі. Стала выконвае функцыю апякуна Беларускага Навуковага Т-ва й дырэктара Беларускага музэю. Чытае публічныя лекцыі аб беларускай літаратуры. Апрача ўсяго гэтага — дбае, каб не заняпала беларуская прэса. Ён на чале яе. Ён галоўны рэдактар шматлікай па назовах, бо часта канфіскаванай, той самай беларускай газэты, ня гледзячы на частыя арышты й усякія прыдзіркі польскай улады.

У часе Грамады — Антон Луцкевіч належыць да галоўнага кіраўніцтва яе, ён-жа галоўны рэдактар грамадаўскай прэсы й усяго выдавецтва. Пасьля разгрому Грамады — ён гуртуе каля сябе рэшткі яе, каб зноў працягваць беларускую работу, па колькі гэта магчыма ў варунках разьюшанага польскага шавінізму. Прыход бальшавікоў у Вільню ў 1939 г. перарывае ягоную дзейнасьць. Яго арыштоўваюць. Засьценкі НКВД, допыты, катаваньне, сьмерць. Яго спатыкае такі самы лёс, як і ўсіх іншых выдатных беларускіх адраджэнцаў, што трапілі ў бальшавіцкія рукі.

Антон Луцкевіч (Антон Навіна) пакінуў па сабе, апрача вялікай колькасьці газэт ім рэдагаваных, літаратурна-крытычныя нарысы „Нашы песьняры" і „Адбітае жыцьцё" ды кніжку „Беларусы пад польскай акупацыяй".

***

Аляксандар Уласаў быў грамадзкім і палітычным дзеячом. Дбаў пра адміністрацыйны бок „Нашай Нівы", а пазьней пра беларускія арганізацыі й школы. Удзельнік 1-га Усебеларускага Кангрэсу. Арганізатар культурных установаў. У часе польскай акупацыі арганізаваў беларускую гімназію ў Радашкавічах і апякаваўся ёю праз увесь час яе існаваньня. Быў беларускім сэнатарам у польскім Сэнаце ў часе першай кадэнцыі, дзе выступаў з прамовамі ў вабароне правоў Беларусаў. Быў старшынём Т-ва Беларускае Школы ў самых цяжкіх часох — пасьля разгрому Грамады. Ачоліваў акцыю складаньня дэкляарацыяў на беларускую школу, змагаючыся з усімі шыканамі польскай адміністрацыі.

У 1939 годзе быў арыштаваны бальшавікамі. Сядзеў у турме ў Маладэчыне. Старога й непасільнага ўжо яго мучылі й катавалі на допытах НКВД. Ня вытрываў, бедны, памёр.

З трох сяброў першай рэдакцыі „Нашай Нівы" толькі Іван Луцкевіч памёр сваёй сьмерцяй, хоць і передчасна.

**В. Жук**

---

гружана 54 тыс. экзэмпляраў, кніга І. Навуменкі „Сосна при дороге" атрымана ў колькасьці 77,4 тыс. экзэмпляраў, 41 тысяча зь іх адпраўленая за межы рэспублікі, і г .д.".

На гэтае паведамленьне „Літаратура і Мастацтва" ў рэдакцыйным артыкуле „Давайце пачытаем разам", зьмешчаным у гэным-жа нумары за 16 жніўня, піша:

„Лічбы, кажуць, упартая рэч. Таму дазвольце і нам заняцца крыху арытмэтыкай. Значыць, так: „Людей на болоте" засталося ў рэспубліцы 26.000 экзэмпляраў (сума атрымалася простым арытмэтычным дзеяньнем — адыманьнем: 80.000—54.000 = 26.000), „Сосны при дороге" — 36.400. Многа гэта ці мала? Што-ж, параўнаем. „Рэспубліканскі" астатак „Людей на болоте" — 26.000 экзэмпляраў. Увесь-жа тыраж „Людзей на балоце" — 20.000 Астатак „Сосны при дороге" — 36.400, тыраж „Сасны пры дарозе" — 6.330. Прапорцыя як бачыце, не ў карысьць беларускіх тыражоў. Акрамя таго, вы, паважаныя таварышы, сарамліва змоўчалі пра 20.000 экзэмпляраў „Людей на болоте" (100.000 — 80.000 = 20 тысячаў) і пра 22.600 экзэмпляраў „Сосны при дороге" (100.000 — 77.400= 22.600), якія адгружаны выдавецтвам Белкаапсаюзу і якія трапілі таксама на прылаўкі нашых (няхай сабе й сельскіх) кнігарань".

У канцы свайго рэдакцыйнага артыкулу „Літаратура і Мастацтва" піша:

„Не ўсе гэтыя пытаньні вельмі хацелася-б пачуць ваш адказ, таварышы з Камітэту для друку пры Савеце Міністраў БССР. Толькі, выбачайце, не такі адказ, які вы прыслалі нам 11 жніўня за нумарам 2081, а адказ па сутнасьці".

Аднак, да гэтага часу рэдакцыя „Літаратуры і Мастацтва" не атрымала ніякага адказу ад Камітэту для друку. Ды хіба й не атрымае.

Другой асноўнай крыніцай дзеля азнаямленьня зь беларускай кнігай, апрача, ейнае прадажы ў кнігарнях, бібліятэкі. У БССР, як афіцыйна падаецца, звыш 20 тысячаў бібліятэкаў. Ужо адно мізэрныя тыражы беларускіх кніжак і часапісаў пацьвярджаюць, што яны ня могуць трапіць навет у важнейшыя й масавыя бібліятэкі рэспублікі. Але навет пры такіх мізэрных тыражох, яны мусілі-б быць прынамся ў важнейшых бібліятэках большых гарадоў. Да такіх бібліятэкаў мусіла-б быць залічаная й Полацкая гарадзкая бібліятэка. Тымчасам у тымжа нумары „Літаратуры і Мастацтва", у якім быў надрукаваны ліст настаўніка з Ашмяншчыны, знаходзім падобны ліст ведамага беларускага мавазнаўца Аўгена Рапановіча. Зь яго даведваемся, што ў гэтай бібліятэцы важнейшых навінак зь беларускай літаратуры бадайшто нямашака, бо кіраўніцтва й працаўнікі бібліятэкі працуюць, як цьвердзіць Рапановіч, паводля прынцыпу: „што хочам — заказваем, што ня хочам — не заказваем".

У „Літаратуры і Мастацтве" за 8 ліпеня зьявіўся вельмі цікавы артыкул старшага інспэктара Упраўленьня распаўсюджваньня друку Міністэрства сувязі БССР, ведамага паэты Кастуся Цьвіркі пад загалоўкам „Падпіска — не адпіска". Кастусь Цьвірка на цэлым радзе канкрэтных прыкладаў сьцьвярджае, што раённыя аддзелы культуры й бальшыня масавых бібліятэкаў рэспублікі выпісваюць пэрыядычныя часапісы для сваіх чытачоў таксама паводля прынцыпу: „што хочам — выпісваем, а што ня хочам — ня выпісваем". Прыкладам, Аддзел культуры Гомельскага раёну зрабіў заяўку для 21 бібліятэкі раёну. У заяўцы 33 часапісы, але ні „Маладосьць", ні „Полымя" туды ня трапілі. Беларуская літаратура ў заяўцы прадстаўленая часапісам „Нёман", што выдаецца ў Менску на расейскай мове.

Кастусь Цьвірка ў сваім артыкуле прапануе, каб сьпісы часапісаў для падпіскі ў культурна-асьветных установах, у тым ліку й у бібліятэках, што распрацоўваюцца якраз цяперака на 1967 год, былі ня рэкамандацыйныя, як дагэтуль, а **абавязкавыя**, якія мелі-б сілу закону. Узапраўды, даўно насьпелая прапанова! Пры наяўнасьці ў рэспубліцы вялікай сеткі бібліятэкаў і не малой колькасьці іншых культурных установаў нельга спадзявацца, каб іхныя працаўнікі навет пры найлепшым жаданьні маглі ўлічваць запраўдныя патрэбы чытачоў. Цьвіркава прапанова — адзінае правільнае разьвязаньне справы камплектаваньня кніжнага фонду бібліятэкаў. Такім-жа правільным разьвязаньнем справы распаўсюджваньня беларускае кнігі наагул было-б адпаведнае павялічэньне іхных тыражоў ды зьліквідаваньне йснуючага ад гадоў хаосу й балагану ў кнігагандлі. Але няма ніякай надзеі, каб адпаведныя ўрадавыя органы Цьвіркаў разумны праект прынялі.

Варта прыпомніць, што сакратар ЦК КПБ Станіслаў Пілатовіч на апошнім пісьменьніцкім зьезьдзе ў травені сёлета афіцыйна паведаміў, што ўжо „прынятыя канкрэтныя захады дзеля палепшаньня работы кнігагандлю". Аднак у практыцы гэнага палепшаньня зусім ня відаць і да сяньня!

Мы прывялі тут некалькі ўзапраўды несамавітых і пікантных фактаў з кніжкай палітыкі ў БССР, — а такіх фактаў процьма, — каб паказаць і даказаць, што **байкатаваньне беларускае кнігі й недапушчаньне яе да чытача, а заміж яе падсоўваньне расейскае кнігі, праводзіцца ў БССР партыйнымі й урадавымі органамі сьвядома й арганізавана дзеля мэтаў русыфікацыі.**

З другога боку, мы хацелі паказаць, якое ўпорыстае й цяжкое змаганьне за доступ беларускае кнігі да беларускага чытача вядзе беларуская нацыянальная інтэлігенцыя, першнапершп паэты й пісьменьнікі, настаўнікі й наагул працаўнікі беларускае культуры. Пэўне-ж, сілы ў гэтым змаганьні ня роўныя. Тым ня менш, усё-ж, хоць-бы дзеля вока, хоць-бы адчэпнага, партыя й урад у некаторых выпадках змушаныя йсьці на частковыя ўступкі.

**Ст. Крушыніч**

---

## „НАЦИОНАЛЬНОСТЬ И РОДОПРОИСХОЖДЕНИЕ ИВАНА ФЕДОРОВА, ПЕРВОПЕЧАТНИКА В МОСКВЕ"

Гэта назоў кніжкі, выданай сёлета ў Задзіночаных Гаспадарствах эмігрантамі зь Вязьмы. У ёй фотографічна передрукавана із зборніка Акадэміі Навук СССР праца В. Лукомскага, за каторую менаваны зборнік быў без адвалокі сканфіскаваны па яго выданьню. Лукомскі пераконуюча давёў, што Федаровіч (гэтак запраўды друкар зваўся) быў Беларусам.

Федаровіч услаўлены ў Расіі, шмат разоў была там урачыстая адправа ягоных угодкаў. Празь дзейнасьць ягоную ё вялікая літаратура парасейску. Адрыцьцё нацыянальнасьці Федаровічавае вельмі выцяла па расейскім шавінізьме; адкрыцьцё-ж канфіскаты кнігі за працу Лукомскага б'ець па хвальшаваньню гісторыі расійскім камунізмам.

Федаровіч быў ня толькі Беларусам, але й непрыяцелем Масквы. Уцёкшы з Масквы, ён у нас і друкаваў, адліваў гарматы на Расійцаў (тады была вайна з Масквою).

Праца В. Лукомскага сьветчa праз багатую гісторыю культуры беларускае.

Менаваная кніжка заслугуе вялікага пашырэньня сярод Беларусаў і небеларусаў — сярод усіх, што ўмеюць чытаць парасійску. Цана кніжкі — 50 цэнтаў. Выпісваць можна адгэтуль:

Mr. R. HOROSHKO
P. O. Box 141
Whitestone, N. Y. 11357.

**Я. С.**

---

## СПРАВА МАНАСТЫРА

Япархіяльная Управа БАПЦарквы паведамляе, што ўжо агледжаныя дзьве фармы для куплі пад манастыр. Просьба да ўсіх зацікаўленых памагчы выбраць, каторая лепшая. Абедзьве маюць свае добрыя бакі. Адна ў павеце Пасэйк, штату Нью Джэрзі, 35 міляў ад мосту Вашыгтона, 3 мілі ад галоўнай дарогі 23 зь Ньюварку ў Порт Джэрвіс. Другая ў павеце Варэн 65 міляў ад мосту Вашынгтона й каля 10 міляў ад новабудаванай дарогі 80. Просьба зрабіць агляд перад сьнегападам. Ува ўсіх пытаньнях зьвяртацца да сп. В. Курылы (тэл. 201-664-7514).

**Япархіяльнай Управа**






BYELORUSSIAN-CANADIAN ALLIANCE
524 St. Clarence Avenue
Toronto 4, Ont.
Матарыялы да друку, ахвяры й падпіску просім прысылаць на адрыс:
Dr. R. Zuk
54 Mary Street
Barrie, Ont. Tel. 728-7581
Advertising rate — $ 1.25 per column inch.

# ХАЙ НЕ МАРНУЮЦЦА БЕЛАРУСКІЯ ПЕСЬНІ, МЫ ІХ ВЫДАДЗІМ!

### АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА РЫГОРА РАМАНАВІЧА ШЫРМЫ КІРАЎНІКА ДЗЯРЖАЎНАЙ АКАДЭМІЧНАЙ КАПЭЛІ БССР

**Вельмі Паважаны Рыгор Раманавіч,**

Мы прачыталі артыкул „Дзесяць гадоў у папцы" ў газэце „Літаратура і Мастацтва" № 80 (2133), з 4-га кастрычніка 1966 г. і нам аж дух заняло: такое народнае багацьце, як 150 беларускіх песьняў гарманізацыі Грачанінава, Кошыца, Галкоўскага, Пашчанкі й іншых 10 гадоў марнуюцца ў папцы! Яны-ж вельмі патрэбны на Беларусі й ня менш патрэбны нам на эміграцыі. Нельга дапусьціць, каб гэты народны скарб далей марнаваўся.

У 1960 годзе Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Кліўлендзе (ЗША) выдала „Беларускі песенны зборнік", у якім зьмясьціла 61 песьню й 31 жартоўных песьняў, гульняў і скокаў — усё гарманізацыі Міколы Куліковіча. Мы маем ня меншыя магчымасьці, як моладзь Кліўленду, і можам выдаць 150 беларускіх песьняў, якія залежываюцца ў вашай папцы. Дык будзьце ласкавы, просім Вас, прышліце нам гэтыя песьні, мы іх выдамо старанна, у якім хочаце тыражы, каб хапіла і для Беларусі, і для эміграцыі. Кажны беларускі эмігрант не пажалее даць штось із сваіх заробкаў, каб гэты скарб пабачыў сьвет.

З глыбокай пашанай да Вас

**Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў Канады**
**Byelorussian Canadian Alliance,**
**524 St. Clarens Avenue,**
**Toronto 4, Ontario, Canada.**

**Ад Рэдакцыі:** Ніжэй падаём поўнасьцю артыкул „Дзесяць гадоў у папцы" зь „Літаратуры і Мастацтва" № 80, аб якім мова ў адкрытым лісьце. Артыкул гаворыць сам за сябе, ніякія камэнтары тут непатрэбныя.

# ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ У ПАПЦЫ...

У газэтным допісе, вядома, на першым пляне павінны быць факты: яны гавораць самі за сябе. І ўсё-ж хочацца пачаць ня зь іх (тым больш, што фактаў, якія змусілі мяне сесьці за пяро, ня так ужо і шмат, па сутнасьці ўсяго адзін). Напачатку хочацца зрабіць невялікае адступленьне.

Пачну зь лірыкі. Прызнаюся шчыра: я дужа люблю нашу беларускую песьню, пераважна народную песьню. Люблю і слухаць, і сьпяваць. Ці радасьць якая надарыцца, ці сум душу агорне, ці проста ў дарозе час скаратаць — усё яна, песьня, памагае. Асабліва, адвядзеш душу, калі даводзіцца трапіць дзе на бяседу, у гурт галасістых вясковых дзяўчат і кабет. З асалодай падцягваеш і „Зялёны дубочак", і „Зялёную вішню", што „з-пад кораня выйшла", і „Ой, хацела-ж мяне маць", і „Гусей", што ляцелі з броду, і „Рэчаньку", і „Зязюленьку", і „А мой бацька добры быў", і „Ня ўсе лугі пакошаны"... Сьпяваеш і думаеш: якім-бы бедным быў, калі-б раптам пазбавілі цябе багацьця гэтага, цуду гэтага! Няйначай, як душы пазбавілі-б...

І як-жа балюча стане, калі часам які-небудзь блазьнюк, учуўшы родную, мілую і любую да сьлёз мэлёдыю, скрывіцца:

— Во, зацягнулі! І няўжо гэта старасьвеччына можа падабацца? Ну, яшчэ бабы вясковыя на радзінах ці на вясельлі запяюць, дык куды ні ішло, яны-ж нічога другога ня ведаюць!..

Так і хочацца накрычаць на падобных знаўцаў і крытыкаў: маўляў, ня выстаўляйце напаказ сваю дурноту, сьпявайце сабе свайго „Чорнага ката", калі ён вам так душу песьціць. А пасьля спахопішся, падумаеш:

— Ну, што ты хочаш ад гэтага зелянухі-вісуса? Ці-ж ня мы самі вінаваты, што такія ў іх густы, што ня вучылі іх адчуць і зразумець, што тая-ж самая „Зялёная вішня" — гэта ня толькі твор самага высокага мастацтва, што яна ўвабрала ў сябе векавечны боль сэрца жаночага, цяпло душы чалавечай, сьлязу бабуль і матак нашых? І хто і калі даруе нам, што вось гэтая дзяўчына-прыгажуня, якая ведае да драбніц біяграфіі ўсіх кінаактораў, пры выпадку і гутарку разумную можа падтрымаць, ня ведае і, самае горшае, ня хоча ведаць песьні, зь якой бабуля снавала і ткала кросны, зь якою яе дзед, а можа навет і бацька, за плугам хадзіў, плыты ганяў, вясельлі і радзіны спраўляў?..

Ня так даўно давялося мне ў час аднэй з камандыровак гутарыць зь кіраўніком самадзейнага харавога калектыву. Прозьвішча гэтага чалавека й ягонага адрысу называць, бадай, ня трэба, бо выпадак такі не адзінкавы. Субяседнікам маім быў адносна малады чалавек, нядаўні выпускнік музычнага вучылішча. Адчувалася, што хлопец ён кемлівы, да таго-ж старанны, працавіты, справу сваю ведае і любіць. Калектыў, якім ён кіруе, пакідае вельмі прыемнае ўражаньне: па культуры сьпяваньня, па выканаўчаму майстэрству ня ўступіць бадай некаторым прафэсіянальным калектывам. У рэпэртуары хору шмат песень. Творы featured рознага пляну, рознага гучаньня: рускія, украінскія, вэнгерскія, польскія, грузінскія. Ёсьць навет, здаецца, фінская песьня. А вось роднай, беларускай — ніводнай.

Я спытаўся ў маладога кіраўніка:

— Чаму-ж так?

Разьвёў той рукамі ды і кажа:

— І рады былі-б, ды, як кажуць, грахі ў рай ня пускаюць. Няма беларускіх песень.

Што такое, думаю, ці не дачуў я часам?

— Ды як-жа так? У такога паэтычнага народу песень няма? Што вы кажаце? Пабойцеся Бога!

А кіраўнік усьміхаецца:

— Даруйце, вы мяне ня так зразумелі. Я не пра тое. Песень то ў нас, вядома, вельмі шмат, але... Я кажу сьпяваць няма чаго. Хораў няма. Ну, як вам растлумачыць? Распрацовак песень для хору няма. Сам я не магу гэтага зрабіць. Ды, прызнацца, і ня ведаю я дасканала нашай песьні. У музычным вучылішчы на беларускую народную песьню за чатыры гады было адпушчана пару гадзін...

Дзіўна, ці ня праўда? А між тым, падобныя скаргі ці прызнаньні даводзілася чуць ад многіх кіраўнікоў самадзейных харавых калектываў.

А прыгадайце апошнія рэспубліканскія дэкады самадзейнага мастацтва — другую й трэйцюю. Найбольш слабым месцам многіх цікавых харавых калектываў быў рэпэртуар. Нацыянальных твораў і, у прыватнасьці, народных яны выконвалі надзвычай мала.

У чым-жа ўсё-такі справа? Песень шмат, а сьпяваць няма чаго?

Шукаць адказаў на гэтае пытаньне я пайшоў да Рыгора Раманавіча Шырмы. А куды-ж яшчэ йсьці? Няма ў нас большага знаўцы беларускай песьні. Скажу крыху й ад сябе. З тых самых пор, як разумею сябе, наша народная (ды і ня толькі народная) песьня заўсёды суседнічала ў мяне зь імем гэтага чалавека. Канечне, спачатку яна прыйшла да мяне ад маці, суседзяў. Але па-сапраўднаму кранула яна за душу, па-сапраўднаму раскрылася яе моц і веліч толькі тады, калі давялося пачуць яе ў выкананьні Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлі БССР пад кіраўніцтвам Рыгора Раманавіча Шырмы.

Рыгор Рамановіч паклаў на стол даволі ёмістую сінюю папку:

— Вось паглядзіце, ёсьць у нас што-кольвечы ці няма.

У папцы аказалася 150 (сто пяцьдзесят!) харавых твораў. Сто пяцьдзесят сучасных, каляндарна-абрадавых, бытавых, вясельных, любоўныж, жартоўных народных песень. Гатовыя, адрэдагаваныя, хоць сяньня ў вытворчасьць.

Я змоўк ад разгубленасьці й непаразуменьня.

— Дзесяць гадоў ляжаць у мяне на стале. Роўна дзесяць гадоў — з 1956 — б'юся, каб яны былі выдадзеныы, трапілі да тых, хто іх чакае, і нічога не дабіўся, — расказвае Рыгор Раманавіч. — Лепшыя кампазытары працавалі над імі. Больш сарака чалавек. Грачанінаў, Кошыц, Галкоўскі, Пашчанка, Багатыроў... Усе творы праверaны ў жывым выкананьні, многія запісаны на грампласьцінкі і магнітафонныя стужкі, высока ацэнены і выканаўцамі, і слухачамі... І вось — дзесяць гадоў у папцы...

Рыгор Раманавіч зьнімае з паліц тоўстыя тамы:

— А вось пацікаўцеся, што робяць, што зроблена нашымі суседзямі.

Гартаю, знаёмлюся. Аляксандар Кошыц. „Украінскія народныя песьні для мяшанага хору". Кніга выдадзена сёлета. У ёй каля сарака харавых твораў. М. Леантовіч. „Харавыя творы". Выдадзена ў Кіяве ў 1961 годзе. У кнізе — каля сарака песень. Украінская „Хрэстаматыя для чытаньня харавых партытур" А. Перунова 1963 году выданьня. Два тамы „Эстонскай харавой творчасьці" — сучаснай і клясычнай. „Рускія народныя песьні для хору". Складальнік А. Новікаў. „Харавыя творы грузінскіх кампазытараў"...

— А Беларусы нібы нічога ня маюць, — гаворыць Рыгор Раманавіч. — Выходзіць, што ня маюць...

Вось, уласна кажучы, і ўсё. Зь цяжкім сэрцам разьвітаўся я з Рыгорам Раманавічам Шырмам. Не, ён не скардзіўся, не гаварыў пра тое, што гэта ягоная праца ляжыць мёртвым грузам дзесяць гадоў. За дзьве гадзіны, што я правёў у ягонай кватэры, я ўжо на свае вочы пераканаўся, што гэты чалавек народжаны для песьні, жыве песьняй, аддае ёй ня толькі душу й жар сэрца, але і здароўе. Сьціплы чалавек, ён навет не сказаў пра тое, што да яго зьвяртаюцца многія людзі (навет з-за мяжы) з просьбай прыслаць беларускія харавыя творы, і што ён перапісвае дзясяткі нотных лістоў ад рукі. Аднак нельга было не заўважыць, не адчуць, як яму балюча і цяжка ад таго, што ягоныя шчырыя жаданьні і намаганьні натыкаюцца на абыякавасьць і чэрствасьць.

— За гэтыя дзесяць гадоў дзе я толькі ня быў з гэтай папкай, — гаварыў у той вечар Рыгор Раманавіч, — і нідзе не знайшоў разуменьня і падтрымкі. Навет з боку тых людзей, якія па пасадах сваіх, па абавязку службы сваёй павінны дбаць аб росквіце культуры нашага народу. Ведаю-ж, што песьні гэтыя патрэбны людзям. Народ наш пявучы, любіць песьню. І кніга харавых твораў была-б вельмі дарэчы. Ды і з другога боку. Як было-б хараша ўзяць у рукі том беларускіх народных песень для хору і сказаць блізкім і далёкім суседзям: вось што мы маем, бярыце, карыстайцеся... А сказаць ня можам... Ведаеце, пасьля ўсяго гэтага ня дужа шмат ахвоты працаваць над другім томам харавых твораў — твораў нашых кампазытараў...

На гэтым можна было-б і ставіць кропку. Толькі ўсё-ж не магу пазбавіцца ад пытаньня:

— Чаму? Чаму яны ня бачаць сьвету? Чаму такое багацьце гадамі ляжыць у папцы? Хто ў гэтым вінаваты? Ад каго залежыць тое, каб зборнік беларускіх народных песень для хору ўсё-ж выйшаў?

Канечне, выдаць тую папку, што ляжыць на стале Рыгора Раманавіча Шырмы, справа нялёгкая. Можна спасылацца і на адсутнасьць паперы, і на слабасьць паліграфічнай базы, і на нярэнтабільнасьць выданьня, і г. д. Але-ж — яе трэба выдаць. І няўжо, каб зразумець гэта, трэба цягнуць дзесяць гадоў?

**М. Гіль**

СЬВЯТОЙ ✝ ПАМЯЦІ

## АНАСТАСІЯ АНАНІЧ

Сяброўка Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады й парафіянка БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта памерла на 63-ім годзе жыцьця 5-га кастрычніка 1966 году ў Гвэлфе, там-жа й пахавана на гарадзкіх магілках 8-га кастрычніка, аб чым паведамляе з глыбокім сумам і выказвае шчырыя спачуваньні дочкам Нябожчыцы зь іх сем'ямі

**Управа З. Б. Ж. К.**

# СТРАТА СЯБРОЎКІ



Пасьля доўгіх цярпеньняў памёрла 5-га кастрычніка 1966 году ў шпіталі сьв. Язэпа ў Гвэлфе сяброўка Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады й парафіянка БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта Анастасія Ананіч.

Цела яе спачывала ў Гільбэрт Мак Інтайр Фюнэрал Гом. Сярод надгробных красак быў букет ЗБЖК й вянкі парафіі БАПЦ й ЗБК. 7-га кастрычніка ў пятніцу вечарам архімандрыт Мікалай адслужыў над нябожчыцай паніхіду, а ў сыботу зраніцы 8-га кастрычніка труна зь яе целам была перавезена ў украінскую царкву сьв. Марыі ў Гвэлфе, дзе была адпраўлена жалобная літургія.

Анастасія памёрла лёгка, спакойна й добра прыгатаваная духова. Ня плакала па сьвеце, бо сонца залівала царкву й ясна асьвятляла Яе супакойную ў вапошнім падарожжы туды, дзе няма ні болю, ні цярпеньняў. Апошняй Яе прыстаньню сталіся Марымонцкія могілкі ў Гвэлфе.

На памінковым абедзе прамаўлялі старшыня Парафіяльнай Рады БАПЦ, Старшыня ЗБЖК, сябра Гал. Управы ЗБК, ды некаторыя з прысутных сяброў Украінцаў. Прамоўцы выказвалі спагад асірочаным дочкам Нябожчыцы Марце Копій і Люсі Шпулер з сем'ямі, ды выражалі пашану памяці памёршай. На прапанову аднаго зь сяброў Украінцаў сабрана было прысутнымі $ 32,50, з чаго палавіна была прызначана „Весткам з Канады", а другая палавіна „Гомону Украіны" (зяць нябожчыцы Украінец), з тым, каб абедзьве газэты зьмясьцілі нэкралёгі ў памяць Анастасіі Ананіч. Факт гэты сьветчыць, што Анастасію шанавалі й любілі ня толькі свае Беларусы, але й Украінцы.

Сям'я страціла ў васобе Анастасіі матку, а ЗЖБК, парафія БАПЦ ды й уся беларуская калёнія ў Таронта — шчырую й ахвярную Беларуску, заўсёды пагодную, сьціплую, лагодную, абавязкавую й заўсёды гатовую да дапамогі сяброўку й вартаснага чалавека.

Вечны супакой Ейнай Душы!

**Падзяка.** Сям'я Шпулер і сям'я Копій складаюць шчырую падзяку перадусім архімандрыту Мікалаю, а пасьля Задзіночаньню Беларускіх Жанчын, парафіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, ЗБК — ды ўсім тым Беларусам і Украінцам, што аддалі апошнія ўслугі й чэсьць іхняй Маткі - нябожчыцы Анастасіі Ананіч.

### ЗЬМЕНА ТЭРМІНУ ЯПАРХІЯЛЬНАГА САБОРУ

Япархіяльная Управа паведамляе, што Япархіяльны Сабор адбудзецца ў Таронта (Канада) ў БАПЦаркве сьв. Кірылы Тураўскага (524 Сьв. Клярэнс эвэню) 26 лістапада сёлета. Парадак дня такі, які й быў пададзены, але пачатак нарадаў а 10-ай гадзіне раніцы. Таму просьба прыяжджаць у пятніцу нанач для далёкіх, выкарыстоўваючы Тэнгівінг канцадыдзень.

**Япархіяльная Управа**

### ДА ВЕДАМА БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗТВА ТАРОНТА Й ВАКОЛІЦ

Дзень Гэрояў Беларусі адзначаны будзе ў нядзелю 27 лістапада сёлета ў Таронта ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру пры Сан-Клярэнс эвэню пасьля Багаслужбы ў царкве. Запрашаем усіх суродзічаў зь сем'ямі й знаёмымі.

**Галоўная Управа ЗБК**

**Падзяка.** Сп. Арсень М. з Брантфарду дзякуе ўсім сяброўкам і сябром за адведзіны й падаркі ў часе ўваходзінаў у новую хату.

### ПАПРАЎКА

У артыкуле-справаздачы „7-ая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі", надрукаваным у № 113 „Беларуса", трэба чытаць, што падаркі кангрэсмэну М. Фіену й сп-ні Фіен **„уручыла маладзенькая Беларусачка ў нацыянальнай вопратцы сп-ня Галіна Кананчук"**, а не сп-ня Р. Дунец, як памылкова было надрукавана.

# Этапы прыгажосьці жанчын

Нямала жанчын пражывае век, робячы толькі адзін пераход — з моладасьці ў старасьць. Гэта ёсьць найкарацейшая й найменей цікавая адлегласьць між двума пунктамі.

Заміж ісьці праз дваццаць ці трыццаць год простай і найкарацейшай сьцежкай да старасьці, ляпей зрабіць ня раз круты паварот управа ці ўлева. Павароты й пераходы ствараюць новыя факты, узбуджаюць жанчыну да разьвіцьця, прыносяць з сабой новыя зацікаўленьні, узбагачаюць яе жыцьцё, бароняць ад аднастайнасьці й нуды, што мучыць і марнуе й так кароткае, а так вартае сябе жыцьцё.

Гэткіх паваротаў ці пераходаў, што прыносяць новыя імкненьні й надзеі, можа быць шмат, але тры ёсьць штонайменш.

Першы пераход наступае, калі ручэй з рэчкай сустракаецца — недзе паміж васемнаццацю й дваццацю гадамі. Гэта ёсьць пераход школьніцы ў маладую дзяўчыну, дзяўчыны ў маладзіцу. Замужняя ці не, працуючая ці не, жанчына гэты пераход зрабіць мусіць.

Другі паварот адбываецца між трыццацю й трыццаць пяцю гадамі. Вядзе ён жанчыну да ўзвышша поўнавартаснасьці, дае ёй у рукі сьвет і жыцьцё.

Трэйці пераход паказвае дарогу, якой жанчына будзе ісьці да канца свайго жыцьця. Ён можа быць арлінным палётам, а прынамся можа даць ёй права ўвайсьці ў ролю дасьпелай, прыгожай, цікавай пад кажным поглядам і фасцынуючай жанчыны. Гэтая роля можа ўсьцяж прадаўжацца, здабываючы толькі на значэньні. Гэты пераход адбываецца каля сарака пяці год.

Мэтай гэтых пераходаў ёсьць ня ўтрымоўвацца вечна „маладой", але супрацьдзеяньне закансэрваваньню ў тым самым стане. Прыказка кажа: „З заду ліцэй, зь пераду музэй". Часам на вуліцыназіраеш перад сабой дзяўчо з разьвеенымі валасамі ў вопратцы падлётка, мінаючы якое заўважыш, што яно мае трыццацёхгадовы твар, які ёсьць у поўным дысананьсе з рэштай зьявішча.

Жанчына часта баіцца рабіць гэтыя пераходы, думаючы, што яны азнака старэньня, дадаваньне сабе гадоў. Яна нат можа прыняць за камплімэнт, заміж за зьнявагу, чыюсьці заўвагу, што ў трыццаць год яна выглядае й захоўваецца, як дзяўчо.

Пераходы з аднае стадыі ў другую не адбываюцца самі сабою. Іх жанчына робіць сьведама, сама ўкладаючы ў іх ня раз шмат стараньняў, энэргіі, энтузіязму й радасьці. А вынік гэткіх пераходаў незалежна ад таго, ці яго жанчына робіць у 18 ці 80 год, заўсёды той самы. Ён спрычыняецца да гэткіх заўвагаў з боку іншых, як: „Што ты з сабой робіш, выглядаеш так добра, поўная жыцьця й энэргіі!?"

ПЕРШЫ ПЕРАХОД. Як-бы ня было гэта дзіўным, але маладыя таксама, як і старэйшыя жанчыны маюць тэндэнцыю заставацца замарожанымі ў той самай стадыі. За шмат ёсьць 26-ці гадовых „школьніц".

У што-ж тады маладое 18-ці ці 20-ці гадовае дзяўчанё мае замяніцца? Адно пэўнае. Маладая дзяўчына павінна перастаць выглядаць і захоўвацца як школьніца з хвілінай, калі яна перастане ёю быць. Цяпер яна мае права выйсьці з фазы школьніцы й увайсьці ў сьвет дарослых. Яна мае права цяпер выглядаць прыгажэй і цікавей, мець сваю індывідуальнасьць. Мае права быць на толькі самаўпэўненай, каб даць іншым людзям прывілей інакш глядзець на рэчы. Яна мае права браць на сябе адказнасьць і абавязкі, мае права на свабоду.

Вонкава гэты пераход выяўляецца ў болей старанна́й туалеце, у болей плянаванай гардэробе. Яна цяпер ведае , што носіцца ў горадзе, а што толькі на вёсцы, у полі ці ў лесе. Яна мае ўжо права на элегантную торбачку, вучыцца, што даюць ёй для агульнага выгляду рознае даўжыні рукавічкі.

Раньнія трыццатыя гады — час для НАСТУПНАГА ПЕРАХОДУ. Прыходзіць час, калі жанчына „мае ўсё" — мужа, дзяцей, а яшчэ маладая. Навучылася змагацца з жыцьцём, выконваць абавязкі маткі, жонкі, гаспадыні, знаецца больш на вопратцы. Яе дзеці пайшлі ўжо ў школу, яна мае больш часу для сябе, для мужа. Яна навучылася, як быць цэнтрам зацікаўленьня ўсяго таварыства. Яна ведае, як не дапусьціць да небясьпечнага, хоць і цікавага пляткарства. Яна ўмее зрабіць прыняцьцё, улажыць мэню для жыватоў ды інтэлектаў гасьцей. Дзякуючы гэтаму пераходу, яна стаецца разумнай жанчынай. З поўным аўтарытэтам яна мае права насіць элегантную вопратку. Яна цяпер болей прысьвячае часу для дагляду свайго твару, фігуры, яна сочыць за сваёй дыетай. Яна можа зьмяняць прычоску й для розных прычын можа фарбаваць свае валасы.

Гэта — фаза вялікіх дасягненьняў: у жыцьці, у прафэсіі, у васяродзьдзі, у вопратцы, у васабістай прыгожасьці, у інтэлекце. Інтэлектуальна жанчына пачынае мець сваю собскую думку, а ня толькі паўтарае, спрытна падбіраючы толькі тое, што калісь чытала, ці чула.

Тады, у першай палове саракавых гадоў, прыходзіць ТРЭЙЦІ ПЕРАХОД. Жанчына, што робіць гэты пераход, наважваецца ісьці далей праз жыцьцё з дастойнасьцяй і стылем. Людзі, што яе ведалі, думаюць, што ёй толькі пашчасьцілася быць заўсёды цікавай і атракцыйнай. У сапраўднасьці-ж дасягнула яна сваю дастойнасьць і красу, працуючы над сабой ды ўзыходзячы з аднаго шчэбля разьвіцьця на другі. Наступны крок залежыць ад папярэдняга. Гэты пераход зьяўляецца паказальнікам для рэшты яе жыцьця.

Цяпер яна жанчына, што мае сваю собскую думку. Яна мае вайстрэйшы розум і цяплейшае сэрца. Дзякуючы пераходным стадыям, яна элястычная і ўмее датарноўвацца да абставінаў, але ня зыйдзе з прынцыпаў, паводля якіх жыла. Аб вопратцы яна ведае ўсё й купляе яе з абсалютнай пэўнасьцяй, маючы наўвеце слабыя месцы свае фігуры. Яна мае ўкамплектаваную гардэробу на ўсякія нагоды, мае футра. Мае права выглядаць, калі захоча, надзвычай элегантна й багата. Яна гэтаксама добра й стылёва выглядае на вёсцы ў спадніцы ды сьвэтры. У ейным веку яна можа мець 6 пляжавых плашчаў і два купальныя касьцюмы, калі 20 год таму назад яна магла мець 6 купальных касьцюмаў і толькі адзін пляжавы плашч.

Што-ж станецца, калі жанчына ня будзе рабіць гэткіх пераходаў? Яна не памрэ, а прынамся ня ўся. Але частка яе памрэ, калі яна адмовіцца расьці, калі яна не дазволіць сваёй красе й сваім вартасьцям разьвівацца й дасьпяваць. Жанчына, што стараецца замарозіць сваю красу й ня дбае пра духовы й інтэлектуальны рост, раптам знойдзецца перад фактам, што з маладой зрабілася старой.

**Раіса**

# ВОЗЬМЕМ ПРЫКЛАД



**ГРУПА ВЫШЫВАЛЬНІЦ**

**Зьлева направа: Люся й Вера Валюкевічы (гаспадынькі хаты), Лёля Міхальчык, Валя Гарох, Крыстына Каваленка, Галіна Кананчук, Маня Каваленка**

Падчас сёлетняе Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Кліўлендзе давялося мне спаткаць шмат маіх былых вучняў зь лягеру ў Остэргофэне ў Нямеччыне. Траха ўсе яны дзейныя сябры беларускіх арганізацыяў, грамадзкія працаўнікі. Можна было-б вельмі шмат напісаць пра ўсіх іх, але хіба іншым разам. Сяньня пра Лёлю Міхальчык.

Я ўсяго два разы наведала Кліўленд: у 1960 годзе падчас 4-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, і сёлета — падчас 7-ае Сустрэчы. І гэтыя абодвы разы за столікам пры касе пры ўваходзе ў залю, як гаспадыня вітала мяне спадарычня Лёля.

Як-жа гэта сталася, што маладая, прыгожая дзяўчына гэтак сур'ёзна, з такой адказнасьцяй увайшла ў грамадзкае жыцьцё й вырабілася на выдатную працаўніцу. — Як гэта сталася, Лёля? — запыталася я ў яе. — Грамадзкая праца пачалася ў мяне з царкоўнага хору, далей я пачала прыймаць удзел у працы арганізацыі моладзі дый наагул усюды; дзе папросяць дапамагчы — дапамагала.

Ня ведаю, з чые ініцыятывы, але пад кіраўніцтвам Лёлі зарганізавалася ў Кліўлендзе група вышывальніц. Зьбіраліся дзяўчаты штопятніцы сыстэматычна, кажную пятніцу ў іншай хаце. Прыймалі ўдзел у гэтых зборках наступныя дзяўчаты: Галіна Кананчук, Маня Каваленка, Валя Гарох, Крыстына Каваленка, Зося Каваленка, Галіна Лук'янчык, Рагнеда Дунец.

Дзяўчаты вышывалі беларускую нацыянальную вопратку: блюзкі й хвартушкі, ручнікі, сарвэткі, падушкі.

Валя Гарох вышыла надзвычай прыгожы нацыянальны ўбор для лялькі. Некаторыя рэчы, вышытыя дзяўчатамі, упрыгожылі выстаўку народнага мастацтва, ладжаную мясцовай арганізацыяй моладзі. Лёля Міхальчык плянуе зарганізаваць адмысловую выстаўку экспанатаў, вышытых групай.

— Вам напэўна прыемна было, Лёля, што Вашая праца зь дзяўчатамі дала такія добрыя вынікі? — пытаюся.

— Ёсьць задаваленьне, бязумоўна, але гэта й каштуе нэрваў. Чаму задаваленьне? — я не магу гэтага так добра выясьніць, але дам Вам прыклад: некаторыя дзяўчаты вышылі сабе беларускія нацыянальныя касьцюмы; заміж пазычаць іх у каго, то цяпер яны маюць свае й прыгожыя. Іх маткі радуюцца, што яны самі вышылі, і мне прыемна, што я мела руку ў гэтай працы.

— Ці маеце якія пляны на далей з гэтай вышывальнай групай? — пытаюся.

— Не, гэта ўсё залежыць ад дзяўчат, калі яны захочуць далей працягваць працу, то я буду старацца ім дапамагчы.

Трэба спадзявацца, што дзяўчаты захочуць і папросяць ізноў Лёлю і ў гэтым годзе кіраваць групай. Будуць яны ізноў сходзіцца на вячоркі (як іхныя маткі некалі на бацькаўшчыне), толькі ня з кудзеляй, а з чырвона-чорнымі маткамі нітак, каб вышываць на белым палатне наш самабытны геамэтрычны старынны ўзор...

Маленькай дзяўчынай памятаю я Лёлю зь лягеру ў Остэргофэн. Яна наведвала тады пачатковую беларускую школу. Высачэзныя ігрушы расьлі ў нашым школьным гародзе, а па іх, як ваверка, гойсала Лёля. Калі малых пралесак (першая група ў скаўтынгу) зьбірала я, каб навучыць трымаць іголку ў пальцах — шыць, дык часта падрапаная зьяўлялася й Лёля. Ня надта любіла яна гэтае шыцьцё. Яе цягнуў прастор, яна любіла бегаць, мела задаткі да спорту.

І ўзапраўды, Лёля вырасла на спартсмэнку. Яна была некалькі год сяброўкай Украінскай валейбольнай дружыны Львы. Там яна выразна ўсьведамілася, што яна Беларуска. І пазьней, пакінуўшы дружыну, пачала гарнуцца яшчэ больш да грамадзкай працы. Прыпадкова я даведалася, што беларускія дзяўчаты ў Кліўлендзе таксама цікавяцца валейболам. Яны ўжо тры гады зьбіраюцца на царкоўным пляцы, іграюць.

Я думаю, што й Лёля, як дасьветчаная валейболка, іграе зь імі. Хіба-ж і тут яна не адмовілася дапамагчы.

Гэта вось некалькі прыпадкова зьбраных вестак аб працы аднае сьціплае дзяўчыны з Кліўленду, працы для беларускай грамады. А вы, паважаныя чытачы, ці можаце сказаць аб сабе, аб сваім удзеле ў грамадзкім жыцьці словамі Лёлі:

— Я заўсёды і ўсюды дапамагаю, калі мяне нехта папросіць.

**З. Станкевіч**

# УСПАМІНЫ ПРА „НАШУ НІВУ"

Мне хочацца дакінуць маленькі ўспамін пра „Нашу Ніву" з асабістага жыцьця.

1911-ы год. Малое мястэчка Будслаў у Вялейскім павеце, у якім каля 1.000 жыхароў — пераважна сялян каталікоў і крыху Жыдоў. Зямлі мала, зарабіць няма дзе. Адважнейшыя дзяцюкі й дзяўчаты выяжджаюць у розныя гарады Расейскай Імпэрыі , а то й у Амэрыку, каб сабе зарабіць і бацьком пасабіць.

У мястэчку няшмат пісьменных, а на вёсках яшчэ менш; культурнікі — гэта ксёндз Паляк, расейскі вучыцель, ды валасны пісар п'яніца. Яны зацікаўлены самімі сабой ды сваей кар'ерай. Жыхары-ж мястэчка й навакольных вёсак жывуць сваім сялянскім жыцьцём. Пра сябе яны ведаюць толькі, што яны простыя мужыкі, не Палякі й не Расейцы, але якой нацыянальнасьці — ня знаюць, хіба простыя, тутэйшыя. Газэт ня чытаюць. Пра жыцьцё на сьвеце ведаюць толькі з прыпадковых чутак, ды прагна ловяць весткі ад сваіх, што варочаюцца з гораду, ці з салдатаў. Тады гурмам валяць у хату „гарадзкога" хлопца ці дзяўчыны й гадзінамі слухаюць іхныя апавяданьні.

Нешта падобнае здарылася й у нашай хаце, калі мая старэйшая сястра прыехала з Рыгі. Поўная хата радні й суседзяў, навет у сенях няма дзе павярнуцца. Вітаюцца, выпытываюць пра жыцьцё ў горадзе, пра навіны на сьвеце й слухаюць расказы сястры.

Але, калі ўжо нагаварыліся, сястра мая штосьць успомніла пра беларускі каляндар, разгарнула кніжку й пачала чытаць „Важную фігу" Ядвігіна Ш. Людзі замерлі, анямелі, у вачох іх зьявілася зьдзіўленьне.— „Як гэта, у кніжцы надрукавана панашаму, папросту," — і зараз-жа пачуўся сьмех з задаваленьня. Апавяданьне падабалася, было сьмешным і цікавым, ды „як раз як з нашага жыцьця" — чуліся заўвагі. „Гэта мусіць паны хацелі з нас пасьмяяцца, дык і напісалі папросту..." — сказаў другі дзядзька.

Чытаньне кончылася, а з хаты ніхто ня выходзіў. Чакалі яшчэ на штось. Тады сястра мая ўзяла газэту й сказала: „А цяпер я пачытаю вам беларускую газэту „Нашу Ніву"". Газэта была прачытана амаль уся, як кажуць, ад дошкі да дошкі. І ад рэдакцыі, і весткі зь Вільні, і зь Пецярбургу, і вершыкі ды апавяданьні, і карэспандэнцыі, і парады. І ніхто ня выходзіў з хаты. Людзі былі як заварожаныя, слухалі лепш, як ксяндза на казаньні. Толькі як сястра змарылася й перастала чытаць — у хаце загуло. Пасыпаліся пытаньні й адказы, спрэчкі й перамовы. „Як гэта, газэта ды надрукавана папросту?" — „Хто яе друкуе й пашто?" — „Ці няма тут якога падвоху" — „Хто гэта ўсё піша?" — „Адкуль яны ўсё гэта ведаюць?" — „Хіба нейкія паны гэта робяць." — „Гэткія паны, як і мы з табой, толькі разумнейшыя й граматнейшыя" — пачуўся адказ Сьмігельскага. Ён ужо раней чуў пра „Нашу Ніву", а можа й чытаў яе. У хаце было поўна гоману, зрабілася горача й аж цёмна ад накуранага дыму. Людзі спрачаліся й махалі рукамі, вочы ў іх блішчэлі. Відаць было, што яны нешта моцна перажывалі. Такой узбуджанасьці Будслаўцаў я ніколі ня бачыў. Усё-ж некаторыя падыходзілі да сястры й распытваліся, як дастаць „Нашу Ніву". Я ніколі не забуду гэтай сцэны ўзбуджэньня сваіх суседзяў.

***

У наступным, 1912 годзе ўжо некалькі сьвятлейшых сялян з Будслава выпісвалі „Нашу Ніву". Некаторыя пасылалі навет карэспандэнцыі. Іншым выпісала „Нашу Ніву" радня, што была ў Вільні або ў іншых гарадох. Гарадзкія, асабліва-ж у Вільні, Пецярбурзе й Рызе, былі зьвязаны зь сьвядомымі нацыянальна беларускімі асяродкамі й чыталі „Нашу Ніву". Вялікая заслуга ў гэтым сьв. памяці Эдварда Будзькі — актыўнага адраджэнца й супрацоўніка „Нашай Нівы". Ён трымаў лучнасьць із сваімі суродзічамі з Будслава, некаторым памагаў уладзіцца на работу й дапамагаў ахвотным да навукі. Таму Будслаўцы ў гарадох усьведамляліся нацыянальна й мелі дабрадзейны ўплыў на свае сем'і дома. І ў суседніх вёсках былі ўжо падпішчыкі „Нашай Нівы". Пра пашырэньне „Нашай Нівы" стараліся Эдвард Будзька й сям'я Мядзёлкаў. Круг чытачоў разрастаўся, „Нашу Ніву" можна было пабачыць ужо і ў суседніх валасьцёх. Я неяк падгледзіў, што „Нашу Ніву" чыталі й наш старшы вучыцель Зубец, і пісар у валасьці, і арганісты. Ня рэдкім зьявішчам было пабачыць групу сялян на лаўцы пад хатай, зь якіх адзін чытаў „Нашу Ніву", а іншыя слухалі. Часта можна было пачуць дэклямацыю вершаў з „Нашай Нівы" сярод моладзі на вечарынах, або й спаткаць пастушка пры статку ці на начлезе, які хваліўся беларускім вершам. Нашаніўцы вычулі правільны тон, яны пісалі ў унісон з жыцьцём народу.

Сьледам за „Нашай Нівай" пайшла беларуская кніжка. Там-сям у Будславе можна была пабачыць беларускія календары, кніжкі із супалкі „Загляне сонца й у наша ваконца", а навет „Гусьляра" й „Шляхам жыцьця" Янкі Купалы.

Пачала адчувацца й прага да асьветы. Шмат хто зь сялян ужо стараўся, каб яго дзеці закончылі дзьве клясы ў мясцовай расейскай школе. Той-сёй высылаў свайго сына ў гарадзкое вучылішча ў Докшыцы ці Вялейку, а то й вучыцца на ксяндза. Некаторых дзяцей забірала радня, што жыла ў гарадох. Будслаў прачынаўся із сваёй цемнаты й абыякавасьці, ізаляцыі й несьвядомасьці. Нашаніўскія зярняты ўзыходзілі сьвежай руньню. Сувязь з культурнымі цэнтрамі гарадоў, а перадусім зь Вільняй, сувязь зь беларускім адраджэнскім рухам узрастала яшчэ больш у наступных гадох, 1913-ым і 1914-ым, аж пакуль Першая сусьветная вайна не перавярнула ўсталеную плынь жыцьця.

***

Вайна сутыкнула Будслаўцаў з чужымі людзьмі й чужымі краінамі. Мужчыны прайшлі войска й франты. Некаторыя сем'і сталіся ўцекачамі, іншыя-ж гасьцілі ў сябе польскіх ўцекачоў. Фронт пракаціўся аж два разы. Прышлося пажыць пад Немцамі й пабыць у доўгім кантакце з рознанацыянальным расейскім войскам. „Нашай Нівы" ўжо ня было. Будслаў быў адрэзаны ад Вільні фронтам, але ў сутычнасьці з чужынцамі ўвыпуклялася беларуская адрозьненасьць яго жыхароў.

Прышла Лютаўская рэвалюцыя й паставіла на парадак дня сацыяльныя й нацыянальныя праблемы, якія горача дыскутаваліся між рознанацыянальнымі вайскоўцамі ў хатах Будслаўцаў. І яны ня былі глухімі на пякучыя пытаньні зямлі й волі, і ім штось перапала з гэтых дыскусіяў. У Будславе стаяў тады штаб арміі, а ў ім было шмат інтэлігенцыі, дык было каму дыскутаваць.

Бальшавіцкі пераварот прынёс голад у гарадох і развал на фронтах. Вярталіся з войска жаўнеры. Папрыяжджалі „гарадзкія", што выехалі калісь для заробткаў, а то й для навукі. Прывезьлі з сабой новыя ідэі, новыя думкі ды шмат кніжак, а сярод іншых і беларускія. Паміж прыехаўшых аказаўся пэўны працэнт інтэлігенцыі.

Ніколі ў Будславе ня было так людна й весела, як у 1917-ым і 1918-ым гадох. Маса маладых мужчын і дзяўчат — здаровых і актыўных. „Нашай Нівы" ўжо ня было, але можна было дастаць пераплеценыя гадавікі яе, якія чыталіся на расхват. Узьдзеяньне „Нашай Нівы" адчувалася далей, ды было ўзмоцнена настроямі рэвалюцыі. Пачалася шырокая грамадзкая й культурна-асьветная праца. Спачатку нібы

